**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 9 (725) 27 лютага 2014 года.**
**Кошт свабодны.**

**Штотыднёвая газета**

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае



**– Не шкадуйце мазгоў на загалоўкі!– кажа Аляксандр Класкоўскі ўдзельнікам трэнінгу па журналістыцы.**
Працяг тэмы на стар. 4.
*Фота Ул. Скрабатуна.*



Падаць абвестку ў «Вольнае Глыбокае» можна не выходзячы з дому, патэлефанаваўшы на ________ **№166**

## Гарадоцкі раён

# Праблемны кантынгент

■ Станіслаў Раманчук

**Яшчэ падчас падрыхтоўкі да маскоўскай Алімпіяды за савецкім часам розных нядобранадзейных масквічоў прымусова вывезлі са сталіцы.**

Гэты даўні вопыт, наўрад ці, будуць прымяняць у Гарадку, які ў пачатку восені прыме рэспубліканскі фестываль-ярмарку "Дажынкі-2014", аднак прафілактычная адпрацоўка раёна ўжо пачалася. Днямі ў раённым цэнтры пасля праверкі прайшла выязная абласная каардынацыйная нарада супрацоўнікаў праваахоўных органаў. Намеснік пракурора Віцебскай вобласці Аляксандр Сідарэнка заявіў на пасяджэнні, што расслабляцца не выпадае нікому. Справа ў тым, што ў сталіцы "Дажынак" на фоне агульнага зніжэння крымінальных здарэнняў – самы высокі ў Прыдзвінні ўзровень злачыннасці на душу насельніцтва. Якое можа быць ўражанне ад хлебаробскага свята, калі на авансцэну выйдуць персоны з прапітым носам, сямейныя скандалісты і злодзеі. Заклапочанасць людзей у пагонах выклікае наяўнасць у горадзе вялікай колькасці закінутых пустуючых дамоў і іншых будынкаў, шэраг з якіх невядома каму належаць. На асобных прадпрыемствах раённага цэнтра маніторынг выявіў парушэнні ў ахове працы і ўласнасці. Падчас нарады вырашана ўмацаваць кадравы склад раённага аддзела міліцыі і пачаць капітальную адпрацоўку праблемнага кантынгента. Не выключана, што тут найбольш нядобранадзейных яшчэ да "Дажынак" адправяць лячыцца ад алкагалізму ў ЛПП. У Гарадку дадаткова ў красавіку правядуць новы вучэбна-метадычны семінар супрацоўнікаў праваахоўных органаў і зразумела, што схільным да разгулу грамадзянам спакойнага жыцця не будзе. Акрамя горада такая прафілактыка па навядзенні парадку пройдзе і па ўсіх сельсаветах раёна.

## Верхнядзвінскі раён

# Ад Берліна да Масквы

■ Чэслаў Якубовіч

**Гэты год для калектыва Верхнядзвінскага масласырзавода стаў знакавым, бо прадпрыемства нядаўна ўпершыню прадставіла лепшую сваю прадукцыю на адной з буйнейшых у свеце міжнародных выстаў харчавання ў Берліне "Зялёны тыдзень-2014".**

Сам форум у нямецкай сталіцы праходзіць ужо 90 гадоў, сёлета 67 дзяржаў свету прадставілі там звыш 1600 экспазіцый, якія агледзела, нягледзячы на траўму спіны, канцлер Ангела Меркель. Дарэчы, мясцовы завод з райцэнтра першым у Беларусі атрымаў патрэбны сертыфікат на права экспарту сваіх сыроў у любой з краін Еўразаюза. Цяпер 70 % вырабаў завадчан ідзе на экспарт, у асноўным на Усход, гаварыць аб масавым прарыве на заходнія рынкі збыту яшчэ рана. У асноўным беларускай прадукцыяй пад брэндам "Ян Сыцароб" цікавіцца Расія і закупляе штогод каля 3 тысяч тон сычужных сыроў. Сёлета такія пастаўкі прадукцыі туды яшчэ болей могуць узрасці, бо завод пацвердзіў выдатную якасць сваіх вырабаў. На чарговай буйной выставе харчавання "ПрадЭкспа-2014" у Маскве Верхнядзвінскі масласырзавод у сярэдзіне лютага атрымаў у ліку 30 пераможцаў яшчэ дзве прэстыжныя ўзнагароды. Дэгустацыйнае журы не ведала, чыя была прадукцыя, але залатымі медалямі выставы адзначыла два сыры ганлёвых марак "Ян Сыцароб" і "Князь Альгерд". Такія ўзнагароды атрымалі сыры "Стары манах" і "Гауда Грант" 45-50-працэнтнай тлустасці. Яны вырабляюцца ў сучасным поўнасцю аўтаматызаваным новым цэху, зыходзячы з лепшых міжнародных стандартаў і аб'ектыўна адпавядаюць класу бяспечных і экалагічна смачных прадуктаў харчавання.

## Полацкі раён

# Не дажыў да льготнай пенсіі

■ Кастусь Александровіч

**Штогод дзясяткі працаўнікоў у нашай краіне, на жаль, гінуць на вытворчасці, атрымоўваюць цяжкія траўмы на рабочых месцах і пакідаюць гэты свет у працаздольным узросце.**

З падобнымі бедамі пачаў сутыкацца апошнім часам і буйны завод ААТ "Полацк-Шкловалакно", дзе адзін з рабочых памёр прама на працы ў пачатку стагоддзя. Сёлета напрыканцы зімы яшчэ адзін падобны выпадак адбыўся ў цэху № 7. Падчас адной з працоўных змен вельмі кепска стаў адчуваць сябе 49-гадовы мужчына-аператар. Калегі выклікалі яму на дапамогу медыкаў з заводскай паліклінікі і тыя адпусцілі рабочага дамоў. Аднак туды ён не дайшоў, бо ў раздзявальцы ён упаў замертва, калі побач нікога не было. Толькі выпадковы прахожы ўбачыў ляжачага на падлозе чалавека, калі аказаць яму меддапамогу было ўжо позна, а ўрачы зафіксавалі смерць рабочага, які не дажыў да выхаду на льготную пенсію ў 50 гадоў толькі лічаныя тыдні. З гэтай нагоды актывісты суполкі Свабоднага прафсаюза адзначылі, што не ўсе патрабаванні па ахове працы тут выконваюцца належным чынам. У прыватнасці, ёсць пытанні па арганізацыі патрэбнага тэмпературнага рэжыму ў цэхах, дрэнны вентыляцыі і адсутнасці пакоя для прыёму харчавання. Дарэчы, яшчэ больш праблем па ахове працы айчынных гастарбайтараў у Расіі, куды масава едуць на заробкі беларусы. І невыпадкова яшчэ адзін 40-гадовы палачанін у лютым трагічна загінуў на будоўлі ў горадзе Луга Ленінградскай вобласці пад упаўшай металаканструкцыяй.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 27.02.14 | | | | Пятніца 28.02.14 | | | | Субота 01.03.14 | | | | Нядзеля 02.03.14 | | | | Пн.03.03.14 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -2 | 0 | 0 | -2 | -2 | -1 | 0 | -1 | -2 | -1 | +1 | -1 | -1 | 0 | +3 | +1 | 0 | +1 | +3 |
| Ціск | 755 | 754 | 753 | 752 | 751 | 750 | 749 | 749 | 748 | 748 | 747 | 746 | 744 | 743 | 744 | 744 | 744 | 744 | 743 |
| Вільготнасць | 89 | 82 | 69 | 88 | 86 | 83 | 73 | 88 | 88 | 87 | 69 | 85 | 88 | 95 | 89 | 93 | 94 | 95 | 91 |
| Вецер м/сек | 2 ЮВ | 4 Ю-В | 3 Ю | 3 Ю-В | 2 Ю-В | 4 Ю-В | 2 Ю-В | 3 Ю-В | 3 Ю-В | 4 Ю-В | 5 Ю-В | 5 Ю-В | 5 Ю-В | 6 Ю-В | 6 Ю-В | 5 Ю-В | 5 Ю-В | 5 Ю-В | 5 Ю-В |

# Аб самым надзённым

## Трыумфальныя дасягненні беларусаў на Алімпіядзе ў Сочы для спецыялістаў не сталі сюрпрызам



■ Аляксандр Цішкевіч

**Каб стаць чэмпіёнам, неабходна шмат праліць салёнага поту, але нашы спартсмены даказалі, што з беларусамі трэба лічыцца. Праўда, гэта не выключае, што ў развіцці айчыннай спартыўнай галіны пры цяперашнім трыумфе ў Сочы яшчэ безліч нявырашаных праблем і цяжкасцей. Застаецца спадзявацца, што беларусы не асаромяцца на дамашнім хакейным першынстве свету, якое зусім хутка пройдзе ў Мінску.**

На працягу цэлых 17 лютаўскіх дзён у цэнтры ўвагі чалавецтва стаў расійскі чарнаморскі горад-курорт Сочы. Наша суседка Расія паспяхова арганізавала і правяла сваю першую ў гісторыі зімовую Алімпіяду. Ды і ў нашай краіне ў гэты час нават далёкія ад спорту суайчыннікі з цікавасцю назіралі па тэлевізару за разнастайнымі падзеямі, якія на працягу паўмесяца разгортваліся на XXII зімовых Алімпійскіх гульнях. Самым масавым стартам зімовага сезона чатырохгоддзя папярэднічала яркая ўрачыстая цырымонія адкрыцця Гульняў, якая ўразіла незвычайнымі і прыгожымі тэхнічнымі спецэфектамі.

Нашы суседзі таксама здолелі за кароткі час пабудаваць спартыўную і іншую інфраструктуру экстра-класу, хоць і патрацілі вельмі шмат грошай. Аднак сочынскія аб'екты застануцца людзям і сюды яшчэ доўга будуць прыязджаць адпачываць шматлікія турысты. Ну, а мы з вамі, канешне ж, маем поўную падставу ганарыцца вельмі ўдалымі вынікамі, якія паказала нацыянальная алімпійская зборная Беларусі ў Сочы. І хоць яе склад на Алімпіядзе не вызначаўся масавасцю ( усяго 27 атлетаў у 5 відах спорту), але ў асноўным яны выступілі бліскуча.

І вось тут узгадаю цікавы факт. Як высветлілася, перад нашымі спартсменамі, у адрозненне ад ранейшых Алімпіяд, не ставілася ніякіх медальных задач. Ва ўсялякім выпадку афіцыйна з высокіх трыбун чыноўнікі ад спорту такія планы свае не агучвалі і гэта, безумоўна, было нарэшце правільна. Можа таму ў выніку ўсё так цудоўна атрымалася на фінішы, бо спартсмены – амбіцыйныя людзі і ўсе жадаюць перамагаць. Да таго ж дзяржава агучыла прэміяльныя за дасягненні, але ж паспрабуй заваюй хоць бы бронзавую медаль пры неверагодна высокай канкурэнцыі.

Аднак спецыялісты да стартаў у Сочы вельмі высока ацэньвалі шансы лепшых беларускіх спартсменаў. За нашых у Сочы вельмі перажывалі іх трэнеры, родныя і блізкія і армія балельшчыкаў ад Мінска да ўскраін. Міжнародныя рэйтынгавыя агенцтвы яшчэ ў пачатку лютага прама казалі, што наша краіна можа на Алімпіядзе заваяваць нават 5 узнагарод: 4 медалі ў біятлоне і яшчэ адзін у фрыстайле. Так на самой справе і атрымалася, нават з перавышэннем прагнозаў спартыўных экспертаў. Але ж, мяркую, такой колькасці "золата" ад беларусаў не чакаў ніхто, магчыма, і самі нашы лепшыя атлеты.

Як вядома, беларускі прэзідэнт прысвоіў 27-гадовай мінчанцы, трохразовай алімпійскай чэмпіёнцы Дар'і Домрачавай ганаровае званне Героя Беларусі. І гэта - цалкам справядліва, яна стала лепшай у свеце ў гонках праследвання, у індывідуальнай гонцы і ў мас-старце і выглядала проста мацнейшай за канкурэнтак. Яшчэ адну залатую медаль прынесла Беларусі 34-гадовая маладая мама і ветэран спорту Ала Цупер у фінале жаночай лыжнай акрабатыкі, а потым яе трыумф прадоўжыў у мужчын 29-гадовы Антон Кушнір. Характэрна, што абодва чэмпіёны ў фрыстайле ў асноўны раўнд спаборніцтваў прабіліся з цяжкасцю пасля кваліфікацыі, але ж у рашаючы момант былі мацнейшыя!

Мы таксама радуемся, што свайго лідара Д. Домрачаву выдатна падтрымала ў біятлоннай гонцы на 15 км яшчэ адзін наш снежны снайпер Надзея Скардзіна, якая заваявала "бронзу". Можна толькі радавацца за нашу нацыю, што яна можа рыхтаваць спартсменаў экстра-класу, якія навечна ўнеслі свае прозвішчы ў летапіс дасягненняў сусветнага спорту. Зараз прыклад чэмпіёнаў павінен паваліць колькасць дзяцей, якія прыйдуць у спартыўныя секцыі. Не ўсім ім выпадзе лёс стаяць на п'едэстале гонару, куды вядзе вельмі напружаная гадамі, цяжкая праца на бясконцых трэніроўках.

Каб стаць чэмпіёнам, неабходна шмат праліць салёнага поту, але нашы спартсмены даказалі, што з беларусамі трэба лічыцца. Праўда, гэта не выключае, што ў развіцці айчыннай спартыўнай галіны пры цяперашнім трыумфе ў Сочы яшчэ безліч нявырашаных праблем і цяжкасцей. Застаецца спадзявацца, што беларусы не асаромяцца на дамашнім хакейным першынстве свету, якое зусім хутка пройдзе ў Мінску. Не робіць гонару беларускай сталіцы, што там цяпер няма ніводнага прыстойнага футбольнага стадыёна.

Сёння, радуючыся за нашых герояў, прайшоўшых старты ў Сочы, трэба яшчэ многае зрабіць у Беларусі, каб у нас пераважаў здаровы лад жыцця. Краіна будзе моцнай рэальна, калі ў яе будзе сучасная квітнеючая эканоміка, добра аснашчаныя не толькі спартыўныя арэны для дзяцей і насельніцтва, але і базы адпачынку, сучасныя бальніцы і медцэнтры, калі нацыя будзе меней хварэць і даўжэй жыць. Нам ёсць куды і да чаго імкнуцца, і тады яшчэ не раз і на новых Алімпіядах у гонар беларусаў будуць гучаць фанфары, яны і надалей будуць рэгулярна радаваць нас алімпійскімі ўзнагародамі.

## Дзень за днём

**З 1 сакавіка для беларусаў падаражэюць аўтамабілі з-за ўвядзенага пад ціскам Расіі ўтылізацыйнага збору на транспартныя сродкі, а таксама тарыфы на паслугі ЖКГ. Золатавалютныя рэзервы Беларусі знізіліся ў студзені яшчэ на 427 млн. USD і наблізіліся да ўзроўню мая 2010 года. Яшчэ мінімум 3 гады будзе дзейнічаць забарона на вырошчванне свіней на панадворках у зоне 5 км ад свінакомплексаў. Беларуская нацыя імкліва старэе, летась прыбавілася яшчэ 130 тысяч новых пенсіянераў. На фінансаванне БРСМ з дзяржбюджэту на гэты год выдзелілі 4,5 млн. USD. Вядучая айчынная гандлёвая сетка "Еўраопт" прапанавала арганізаваць 1000 сваіх аўталавак па ўсёй краіне.**

## Важнейшыя навіны свету

**Германія.** Глава Еўрапейскага цэнтрабанка Марыо Драгі заявіў, што аднаўленне эканомікі еўразоны ідзе поўным ходам, перыяд нізкай інфляцыі ў ЕС чакаецца працяглым.

**Расія.** На нарадзе ва ўрадзе РФ намецілі шэраг антыдэмпінгавых мер у дачыненні малочнай прадукцыі з Беларусі, існуюць прэтэнзіі і наконт яе дрэнтай якасці.

**Егіпет.** У ходзе сутычак з пратэстуючымі ісламістамі паліцыя забіла ўжо больш тысячы чалавек, але народ падтрымлівае курс на падаўленне іх радыкальнага экстрэмізму.

**Іран.** Жыхары краіны парадаваліся, што Тэгеран наведалі дэлегацыі бізнесменаў з ЗША, Канады і вядучых дзяржаў ЕС, што дае надзею на хуткае аднаўленне эканомікі.

**Швейцарыя.** На рэферэндуме 50,4 % жыхароў краіны падтрымалі заканадаўчую ініцыятыву аб увядзенні квот на працаўладкаванне з іншых дзяржаў Еўрасаюза.

**Казахстан.** Нацыянальны банк краіны адмовіўся ад валютных інтэрвенцый і пайшоў на дэвальвацыю нацыянальнай валюты, яе падзенне дасягнула амаль 20 %, курс стаў 1 долар за 155,5 тэнге.

**Сірыя.** Урад краіны зноў сарваў чарговую дастаўку на ўтылізацыю баявых атрауляючых рэчываў, па графіку іх павінны былі знішчыць 90 %, а вывезла 5 %, вось і вер рэжыму.

**Венесуэла.** Міністр па справах турэмнай сістэмы Ірыс Варэла прызнала, што ўладам не ўдалося закрыць дыскатэкі ў папраўчых калоніях, у якіх сядзяць 53 тысячы зняволеных.

**Ватыкан.** Святы прастол не пагадзіўся з вывадамі Камітэта ААН па правах чалавека па адносінах царквы да абортаў і педафіліі, бо былы Папа пазбавіў сану амаль 400 святароў.

**Казахстан.** Прэзідэнт Н. Назарбаеў прапанаваў афіцыйна перайменаваць назву краіны на "Казахелі" альбо "Казахія", каб яе не блыталі ў свеце з іншымі дзяржавамі Паўднёвай Азіі.

**Расія.** Мэр Масквы А. Сабянін пасля стральбы ў Атрадным загадаў увесці дадатковыя меры бяспекі ў сталічных школах і правесці там пазачарговую пераатэстацыю псіхолагаў.

**ЗША.** У 38-гадовай расійскай спявачкі Жанны Фрыске ёсць шанцы, як паведамілі ўрачы медцэнтра ў Нью-Ёрку, перамагчы рак мозгу, але яе лячэнне зойме 12 і болей месяцаў.

**Літва.** На Алімпіядзе ў Сочы беларускую дэлегацыю з 48 чалавек адзела ў форму літоўская кампанія Audimas, а выраблена для яе абутак французская фірма Salomon.

**Дубай.** Услед за адмовай гуляць за сваю зборную беларуска Вікторыя Азаранка знялася і з турніра ВТА ў Дохе і страціла 2-е месца ў сусветным рэйтынгу табелі аб рангах.

**Расія.** Упершыню ў гісторыі зімовых Алімпіяд колькасць дзяржаўудзельніц на гульнях у Сочы дасягнула 88 нацыянальных каманд, што на 6 болей, чым у Ванкуверы.

## У Аршанскім раёне плануецца стварыць аналаг «Чаркізаўскага рынку»



■ **БЕЛТА**

**У пасёлку Балбасава Аршанскага раёна плануецца рэалізаваць праект па стварэнні буйнога аптовага цэнтра, дзе індывідуальныя прадпрымальнікі змогуць закупляць неабходны ім тавар.**

Пра гэта было заяўлена 18 лютага на нарадзе ў кіраўніка дзяржавы Аляксандра Лукашэнкі, дзе абмяркоўваўся праект указа «Аб некаторых пытаннях рэалізацыі тавараў індывідуальнымі прадпрымальнікамі і іншымі фізічнымі асобамі», паведамілі БЕЛТА ў прэс - службе беларускага лідара. Прэзідэнт пацікавіўся там , ці не паўстане ў выніку прыняцця прапанаваных змяненняў дэфіцыту па асобных катэгорыях тавараў. Прэм'ер -міністр Міхаіл Мясніковіч і віцэ -прэм'ер Пётр Пракаповіч запэўнілі, што ва ўмовах, якія склаліся ў Беларусі, шырокай прапанове тавараў і вялікай колькасці ўдзельнікаў рынку гэтага не адбудзецца.Кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Беларусі Андрэй Кабякоў спытаў , як паўплывае прыняцце новага дакумента, які рэгулюе працу прадпрымальнікаў, на колькасць жадаючых з'ездзіць у сумежныя краіны за больш таннымі імпартнымі таварамі. Пётр Пракаповіч прызнаў, што імпартныя тавары на ўнутраным рынку даражэй , чым у сумежных краінах. Прычыну гэтага ён бачыць у закупках праз пасярэднікаў.

«Таму цяпер наша задача складаецца ў тым, каб пастаўляць напрамую. Мы можам напрамую пастаўляць любы тавар. Чатыры-пяць дзён – і кантэйнер з Кітая прыходзіць у Мінск. Якія праблемы? «- Заўважыў віцэ -прэм'ер.« Так, якія праблемы? Я некалькі гадоў таму даручаў стварыць у Беларусі «Чаркізаўскі рынак», каб нашы прадпрымальнікі не ездзілі ў Маскву ці яшчэ кудысьці. Дзе паглядзець гэты рынак ?» – Задаў пытанне Аляксандр Лукашэнка.«Пакуль такога рынку няма», – канстатаваў Пётр Пракаповіч.«Чаму вы не ўзялі з Мясніковічам і не стварылі падобнае прадпрыемства ?» – Спытаў кіраўнік дзяржавы. Віцэ-прэм'ер далажыў, што такі праект плануецца рэалізаваць у пасёлку Балбасава Аршанскага раёна, і неўзабаве будуць унесены адпаведныя прапановы. Адначасова рэалізуюцца планы па стварэнні ў Беларусі сеткі іншых лагістычных цэнтраў. Разам з тым Пётр Пракаповіч заўважыў, што ў прадпрымальніцкім асяродку няма вялікай колькасці жадаючых гэтым займацца, так як усіх задавальняе цяперашняя сістэма .«...задавальняе, таму што ў іх няма альтэрнатывы. Яны як ездзілі ў Маскву, так і ездзяць. Яны ўжо прывыклі да гэтага шляху. Гэта натуральна: чалавек прывыкае, напрацоўвае пэўныя схемы і па іх працуе. Іншыя схемы вы не прапанавалі. Па-другое, вы не выканалі маё даручэнне», – падкрэсліў Прэзідэнт. Кіраўнік дзяржавы даручыў міністру гандлю разам з іншымі членамі ўрада і губернатарамі да 1 ліпеня стварыць у кожнай вобласці аптовыя базы. «Тое, што мы тут не вырабляем, у асноўным павінна быць увезена, каб не ствараць гэтага дэфіцыту», – сказаў Прэзідэнт.« Па коштах вы будзеце галоўным кантралёрам гэтых аптавікоў. Вы іх павінны зацiснуць да мінімуму. Вы ведаеце, якая ў іх павінна быць рэнтабельнасць. Аж да заробкаў вы будзеце кантраляваць. Я вам гэта гарантую », – паабяцаў кіраўнік дзяржавы, звяртаючыся да прысутных на нарадзе прадстаўнікоў прадпрымальнікаў.

## Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Эканамічная сітуацыя ў краіне, як заявіў прэм'ер-міністр М. Мясніковіч, вельмі цяжкая, замежных інвестыцый мала, грошай на правядзенне мадэрнізацыі не хапае.

**Гродна.** У мясцовым заапарку львіца адкусіла руку 37-гадовай работніцы кармакухні, калі яна перад адыходам дамоў з працы вырашыла неасцярожна пагладзіць звера.

**Мінск.** Зноў не знайшлося ніводнага жадаючага купіць дзяржаўную долю акцый апаратара сотавай сувязі кампаніі МТС па пачатковай стартавай цане 863 мільёна долараў.

**Пінск.** Амаль тыдзень занялі работы па ліквідацыі наступстваў уцечкі амаль тысячы тон мазуту на ЦЭЦ "Заходняя", якая дае цяпло і гарачую ваду для 40 % жылфонду горада.

**Мінск.** Віцэ-прэм'ер П. Пракаповіч не пабаяўся сказаць А. Лукашэнку, што нават нашы флагманы МТЗ і МАЗ і іншыя заводы ўжо неканкурэнтназдольныя на рынках свету і РФ.

**Ельск.** З падачы райпракуратуры пракуратуры Следчы камітэт пачаў расследваць справу былога намесніка главы раёна, які ў 2006 г. дапамог сыну незаконна атрымаць зямельны ўчастак.

**Мінск.** МТЗ не розніцца з маторным заводам на 200 млрд. рублёў за выраблены заказы, бо са збытам праблемы, у студзені шэраг цэхаў два разы працавалі няпоўны тыдзень.

**Брэст.** Рэдакцыя тэлеканала CNN прынесла прабачэнні за ўключэнне манумента вышынёй 36 м "Мужнасць" у Брэсцкай крэпасці ў спіс самых нязграбных помнікаў свету.

**Мінск.** У гандлёвай сетцы "Еўраопт", як паведаміў генеральны дырэктар А. Зубкоў, працуе ўжо 21 тысяча чалавек і 13 гіпермаркетаў, сёлета будуць адкрыты яшчэ 100 магазінаў па ўсёй тэрыторыі краіны.

**Камянец.** Паблізу граніцы пагранічнікі выявілі табун з 15 коней польскага фермера, якія зламалі агароджу і забеглі на тэрыторыю Беларусі, пазней іх вярнулі гаспадару.

**Лагойск.** Ноччу каля апоўначы закурыў у пасцелі 54-гадовага мужчына ў інтэрнаце для прэстарэлых і інвалідаў і адбыўся пажар, але спрацаваў АПІ, агонь хутка патушылі.

**Мінск.** Кіраўнік праўуладнага Саюза афіцэраў генерал-лейтэнант у адстаўцы Яўген Мікульчык абурыўся непаважлівым стаўленнем да людзей дзяржчыноўнікаў і СМІ.

**Гродна.** Настаўнік фізікі Адэльскай СШ А. Аўсейчык за 3 гады эксперыментаў з вучнем распрацавалі акумулятар з … бульбы, які зараджае мабільнік на два тыдні працы.

**Мінск.** Група вядомых дзеячаў беларускай культуры выказала падтрымку арыштаваным фанатам БАТЭ (Барысаў), арыштаваным за здымкі ў падтрымку героям Майдана ў Кіеве.

**Барысаў.** На 3 мая запланавалі адкрыццё самага сучаснага стадыёна Беларусі "Барысаў-Арэна", на ім пройдзе фінальны матч чарговага розыгрышу Кубка РБ па футболе.

## Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Да 1 сакавіка гаспадаркам вобласці загадалі адрамантаваць усю тэхніку да веснавой сяўбы на плошчы 500 тысяч га, каб намалаціць 1 мільён 370 тысяч тон збожжа.

**Орша.** На новай ферме сельгасфіліяла "Браздзетчына" мясакансервавага камбіната пачаліся работы па падрыхтоўцы дояравробатаў для абслугоўвання статку на 900 кароў.

**Наваполацк.** У аддаленым мікрараёне горада Баравуха спецыялісты-выбухатэхнікі закалі 90 зарадаў і кіруемым выбухам знеслі аварыйную воданапорную вежу.

**Глыбокае.** З мэтай наладзіць цеснае супрацоўніцтва раён наведала група дэпутатаў Даўгаўпілскай краявой думы, акрамя райцэнтра яны сустрэліся з калегамі з Удзела.

**Верхнядзвінск.** Крэдыторы пачалі працэдуру банкруцтва мясцовай ПМК-44, але Эканамічны суд Віцебскай вобласці ў адносінах да яе ўвёў часовы механізм абароны.

**Чашнікі.** У вёсцы Боркі трагічна загінула ў сваім доме 79-гадовая пенсіянерка, якая выносіла вугалі з печы і па неасцярожнасці яны трапілі на адзенне старой і загарэлся.

**Віцебск.** ААТ "Віцебскдрэў" пачалі правяраць следчыя пракуратуры, каб знайсці вінаватых у нанясенні ўрону дзяржаве па факце зрыву тэрмінаў яго мадэрнізацыі.

**Талачын.** Да 5 гадоў турмы пагражае жыхару вёскі Ваўковічы, вінаватаму ў смерці двух чалавек у выніку выбуху газавага балону пасля яго замены і ўзнікшага пажару ў доме.

**Ушачы.** Пры дапамозе Жарскага сельсавета, купіўшага лес, мясцовыя жыхары сваімі сіламі за 3 дні пабудавалі драўляны бяспечны мост даўжынёй 44 метры праз раку Ушача.

**Віцебск.** Вобласць стала самай "апазіцыйнай" у краіне: у склад участковых выбарчых камісій уключылі нават 12 іншадумцаў сярод 105 566 "лаяльных" членаў выбаркамаў.

**Браслаў.** Скульптар з Віцебска І. Казак выйграў творчы конкурс і па заказе райвыканкама вырабіць помнік рыбаку – сімвалу азёрнага краю, які павінен упрыгожыць раённы цэнтр.

**Віцебск.** Кіраўніцтва вобласці сёлета з 500 дзеючых устаноў адукацыі вырашыла закрыць яшчэ 15 школ, а 30 сярэдніх школ будуць рэарганізаваны ў базавыя, бо мала вучняў.

**Полацк.** Міністэрства аховы здароўя РБ выдзеліла новы сучасны і выдатна аснашчаны рэанімабіль на базе аўтамабіля "Рэно" мясцовым медыкам, яшчэ 3 - іх калегам з Віцебска.

**Орша.** Пасля здачы ў эксплуатацыю ў пяцёрку самых буйных шматфункцыянальных комплексаў Беларусі ўвайшла Лядовая арэна плошчай 23 тысячы квадратныхметраў коштам 31 ммільён долараў.

**Віцебск.** Перад першым вучэбна-трэніровачным зборам шматпакутны ФК "Віцебск" пакінулі яшчэ 7 ігракоў мінулагодняга складу, клуб папоўніў пакуль толькі 4 навічкі.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Нярэдкія выпадкі нахабнага крадзяжу лесу

**_Парушальнікаў чакае штраф да 50 базавых велічынь і пакрыццё прычыненай шкоды._**

■ **Аляксей Протас,**
_начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету._

**Лес – адно з асноўных багаццяў нашай краіны і як мы будзем ставіцца да яго захаванасці, залежыць наша будучыня.**

Нярэдкія выпадкі нахабнага крадзяжу лесу, прычым выразаюцца самыя лепшыя дрэвы, забіраецца самая карысная частка дрэва, а астатняе кідаецца.

Супрацоўнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету штомесяц выяўляюць такія факты і прыцягваюць вінаватых да строгай адказнасці, асабліва парушальнікі, актывізуюцца ў перадзімовы і зімовы перыяд.

З наступленнем зімы жыхары раёна ўсё актыўней пачынаюць нарыхтоўваць дровы, асабліва на землях сельскагаспадарчага прызначэння. Шматлікія грамадзяне карыстаюцца не сапраўднымі дакументамі (даведка агранома гаспадаркі, сельскага Савета і г.д.) Зважаем грамадзян, што адзіны дакумент, які дазваляе нарыхтоўку і вывазку драўніны з земляў с/г прызначэння, гэта ордар на нарыхтоўку драўніны выдадзены мясцовым лясніцтвам, усе астатнія даведкі ад іншых арганізацый – не сапраўдныя. Высечка дрэў па рашэнні сельскага выканаўчага камітэта дазваляецца толькі на землях населеных пунктаў. Закон Рэспублікі Беларусь «Пра расліны свет» частка 37 «Выдаленне аб'ектаў расліннага свету» – выразна абвяшчае, што выдаленне, у тым ліку высечка, драўняных ці хмызняковых аб'ектаў расліннага свету, размешчаных на землях любых катэгорый, за выключэннем земляў населеных пунктаў, ажыццяўляецца ў парадку, усталяваным лясным заканадаўствам Рэспублікі Беларусь і заканадаўствам Рэспублікі Беларусь пра расліны свет.

Асобныя грамадзяне не спяшаюцца звярнуцца ў лясніцтвы з нагоды нарыхтоўкі дроў, а самастойна спрабуюць іх нарыхтаваць у забароненых месцах і такія факты супрацоўнікамі міжраённай інспекцыі выяўляюцца і вінаватыя нясуць суровае пакаранне.

Так, 21 лютага 2014 года пры правядзенні сумесных мерапрыемстваў супрацоўнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі і працаўнікоў Празароцкага лясніцтва Дзісненскага лясгаса затрыманыя 4 жыхары Ушацкага раёна, якія, не маючы дазваленчых дакументаў, незаконна паспелі зрэзаць 76 сырарастучых дрэў алешыны шэрай, агульным аб'ёмам 15 м.куб., г.зн. 3 аўтамашыны добрых дроў. Нарыхтаваныя дровы прызначаліся для продажу грамадзянам па кошце ад 1 млн. рублёў да 1, 5 млн. рублёў. Супрацоўнікамі міжраённай інспекцыі канфіскаваная бензапіла Штыль, накладзены арышт на аўтамашыну ГАЗ-53, якую выкарыстоўвалі для перавозкі незаконна нарыхтаванай драўніны. Усіх парушальнікаў чакае штраф да 50 базавых велічынь і пакрыццё прычыненай шкоды, якая склала больш 1 млн. рублёў. Пакаранне будзе максімальным, каб больш не было жадання секчы незаконна, бензапіла падлягае канфіскацыі.

Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць па тэлефон «гарачай лініі» Глыбоцкай міжраённай інспекцыі: 8-02156- 2-86-70, маб.: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78 мтс.

# Лукашэнка даручыў адрэдагаваць правілы прыёму ў ВНУ

Аляксандр Лукашэнка «даручыў адрэдагаваць правілы прыёму ў ВНУ так, каб даць больш магчымасцяў для паступлення здольным дзецям з глыбінкі, якія падчас вучобы могуць паказаць добрыя вынікі нават у параўнанні са студэнтамі са сталіцы». Як паведамляе прэс-служба прэзідэнта, аб гэтым Аляксандр Лукашэнка паведаміў 23 лютага падчас сустрэчы з жыхарамі Мінска пасля ўскладання кветак на Плошчы Перамогі.

Разам з тым ён лічыць, што ў цэлым у Беларусі «занадта размахнуліся па вышэйшай адукацыі». Паводле слоў Лукашэнкі, колькасць тых, хто скончыў ВНУ, значна павялічылася нават у параўнанні з савецкім перыядам, а спецыялісты па асобных кірунках не запатрабаваныя на рынку працы. Пры гэтым у часткі выпускнікоў завышаныя чаканні адносна далейшага працаўладкавання, лічыць беларускі кіраўнік: _«Дыплом атрымаў, не важна нават як, і ён лічыць, што яму заўтра Лукашэнка павінен даць вялікі стол і крэсла. Не ведаю. Гэта, напэўна, няправільны падыход»._

_«Цяпер вельмі шмат гавораць аб тым, што настаўнікам быць не прэстыжна. Мне, вядома, балюча гэта чуць»,_ — заявіў таксама Лукашэнка.

Адносна неабходнасці амаладжэння кадраў у сферы адукацыі Лукашэнка выказаў меркаванне, што «нельга дапусціць страты вопыту, які ёсць у выкладчыкаў старэйшага пакалення». Паводле яго слоў, гэта датычыцца і іншых кірункаў, у тым ліку дзяржаўнай службы: _«Таму не трэба спяшацца. Ёсць разумныя маладыя людзі, але ім усё адно патрэбен вопыт. Так, будзем імкнуцца да таго, каб моладзь усё ж займалася канкрэтнай справай»._

Ён таксама згадаў пра нядаўнюю нараду па пытанні працы індывідуальных прадпрымальнікаў, многія з якіх у пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя былі вымушаныя прыйсці ў гандаль менавіта са сферы адукацыі. _«Яны пастаўляюць сюды тавар і прадаюць на гэтых рынках. Але гэта не справа кандыдата навук і прафесара. Гэта нават не справа чалавека з вышэйшай адукацыяй паехаць, як раней казалі, на Чаркізаўскі рынак у Маскву, набраць барахла без усякіх дакументаў, прывезці сюды і тут прадаць,_ — лічыць Лукашэнка. — _Хоць гэта праца цяжкая. Але трэба прыходзіць да цывілізаванага стану. І, вядома, пакрыўдзіць іх таксама нельга. Але я ім прама сказаў: хлопцы, майдана не будзе ў Беларусі»._

Як адзначылі ў прэс-службе, гаворка пра сферу адукацыі падчас сустрэчы Лукашэнкі з мінчанамі зайшла, паколькі сярод тых, хто прыйшоў на мерапрыемства, было шмат педагогаў.

_**Андрэй Серада, БелаПАН.**_

# «Не шкадуйце мазгоў на загалоўкі!»

**22 лютага ў д/а «Чачалі» адбыўся трэнінг для журналістаў, які праводзілі такія «дыназаўры» беларускай журналістыкі як Аляксандр Коктыш і Аляксандр Класкоўскі. Апошні, дарэчы, у свой час, быў галоўным рэдактарам газеты «Знамя ности».**



На трэнінг прыехалі журналісты пачаткоўцы з Глыбокага, Браслава, Паставаў і Ашмянаў. Усіх –20. Узроставая катэгорыя разнастайная – ад 12 да 75 гадоў. Пачаткоўцам, зразумела, можна быць і ў любым узросце.

Асноўны кантынгент прысутных быў той, які запрасіў вядомы ксёндз Віктар Місевіч, галоўны рэдактар «Каталіцкага весніка».

Трэнінг пачаўся малітвай за Украіну. Прысутныя журналісты звярнуліся да Госпада, просячы, каб у суседняй краіне перастала праліваца кроў і пачала панаваць справядлівасць.

Сярод удзельнікаў трэнінгу людзі, якія мараць стаць журналістамі, але на сёння не напісалі яшчэ ніводнага артыкула для газет ці інтэрнэту. Некаторыя ж напісалі за сваё жыццё ўсяго 1-3 артыкулы. Таму вельмі важна ведаць азы журналістыкі. Можна, напрыклад, напісаць цікавы і змястоўны артыкул, але прыдумаць да яго кепскі загаловак і чытач у газеце ці на сайце не зверне на артыкул ніякай увагі. «Не шкадуйце мазгоў на загалоўкі!»– заклікаў А. Класкоўскі.

Аляксандр Класкоўскі распавёў асаблівасці напісання артыкулаў для Сеціва. Вялікую ўвагу ён звярнуў на тое, што журналіст павінен "трымаць фармат", быць прафесійным, зважаць, каб не адбываўся раскол грамадства цераз медыйную сферу. Прысутныя даведаліся таксама пра тое, як напісаць нясумны артыкул. Асаблівую ўвагу на рэпартаж звярнуў Аляксандр Коктыш і зазначыў, што журналіст, працуючы ў гэтым жанры, павінен намацаць "нерв" падзеі. Удзельнікам быў прапанаваны шэраг практычных заданняў з далейшым абмеркаваннем.

Трэнінг, са слоў удзельнікаў, стаўся карысным, большасць упершыню атрымалі змястоўныя веды пра тое, як трапна данесці сваю інфармацыю аб падзеях да чытача.

_**Ул. Скрабатун.**_

# Конкурс на мясцовых выбарах складзе 1,2 чалавека на месца дэпутата

Паводле звестак Цэнтрвыбаркама Беларусі, кандыдатамі ў дэпутаты мясцовых саветаў зарэгістравана 22 338 чалавек, адмоўлена ў рэгістрацыі 353 прэтэндэнтам. Выбары пройдуць у 18816 выбарчых акругах. Самы высокі конкурс у Мінгарсавет: 3,4 чалавека на акругу, а ў абласныя саветы - 2 чалавекі на акругу, гарадскія гарадоў абласнога падпарадкавання – 1,9, раённыя – 1,3, пасялковыя і сельскія – 1,1-1,2.

66,8% кандыдатаў вылучаны шляхам збору подпісаў, крыху больш за 34,6% - працоўнымі калектывамі, 3% - палітычнымі партыямі.

Палітычнымі партыямі вылучаны 675 кандыдатаў. Зарэгістравана ад Камуністычнай партыі Беларусі - 255 (вылучана 277), Ліберальна-дэмакратычнай партыі – 125 кандыдатаў (159), Беларускай партыі левых «Справядлівы свет» - 88 (119), Аб'яднанай грамадзянскай партыі – 81 (111), Рэспубліканскай партыі працы і справядлівасці - 48 (51), Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) – 42 (50), партыі БНФ - 27 (35), сацыял-дэмакратычнай партыі народнай згоды, Беларускай сацыяльна-спартыўнай партыі і Беларускай патрыятычнай партыі – па тры (вылучалі таксама па тры).

# Яраслаў Берніковіч пабыў кандыдатам у дэпутаты ўсяго 4 гадзіны



**20 лютага ў 11 гадзін раённая выбарчая камісія ўручыла актывісту кампаніі «Гавары праўду» пасведчанне кандыдата ў дэпутаты Глыбоцкага райсавету. А ў 15 гадзін з камісіі патэлефанавалі з папярэджаннем, што ягоную рэгістрацыю ануяюць.**

– Гэта здарыцца толькі заўтра, бо сёння камісію ўжо не збярэш на пасяджэнне, дзе мусяць ануляваць рэгістрацыю,– кажа Яраслаў Берніковіч:

«Прычына для мяне стала сюрпрызам: аказваецца, подпісы за маё вылучэнне былі сабраныя не ў той вёсцы. У Глыбоцкім раёне, сказалі ў камісіі, ёсць 2 вёскі з аднолькавай назвай Гірстуны. Адна – у Карабоўскім сельсавеце, за пару кіламетраў ад Верхняга, дзе я жыву. Вёска Верхняе – гэта таксама тая акруга, дзе я збіраўся балатавацца, і навакольныя вёскі туды ўваходзяць. Але ў камісіі кажуць, што гэта – не тыя Гірстуны, і што подпісы я мусіў збіраць у Гірстунах Удзелаўскага сельсавета. Я нават не ведаў, што там ёсць такая вёска, бо яна даўно не існуе, там няма насельнікаў!»

Актывіст дэманструе раённую газету «Веснік Глыбоччыны» са спісам акругаў і населенымі пунктамі, якія ў іх уваходзяць. У Вярхнянскай акрузе №22 ёсць вёска Гірстуны, але без удакладнення, да каторага сельсавету яна адносіцца.

«Гэта недапрацоўка тых, хто рыхтуе выбары, хто дзеліць акругі. Калі ёсць 2 вёскі з аднолькавымі назвамі, трэба ж пазначаць канкрэтна, якая маецца на ўвазе! У той вёсцы, пра якую гаворыць камісія, людзей няма. Нават сама вёска ёсць не на кожнай мапе. А там, дзе збіраліся подпісы, вёска жылая, мяне ведаюць. Аднак у выніку – 19 подпісаў прызнана несапраўднымі. Я падаваў у камісію 92 подпісы замест 75, каб быў запас. Але цяпер высвятляецца, што мне ўжо двух подпісаў не хапае. Вось і падстава, каб не зарэгістраваць!», – абурэцца актывіст.

Дарэчы, Яраслаў Берніковіч збіраўся балатавацца і ў раённы і ў Віцебскі абласны саветы. Аднак і ў рэгістрацыі на кандыдата аблсавету яму было адмоўлена: на адным з падпісных аркушаў не было напісана слова «Глыбокае», і ўвесь аркуш «забракавалі», прызнаўшы ўсе подпісы на ім несапраўднымі.

_**Паводле http://spring96.org**_

# Беларускамоўныя літвіны Генрыка Сянкевіча

**Адным з галоўных герояў рамана польскага пісьменніка Генрыка Сянкевіча «Агнём і мячом», які апісвае пачатак паўстання пад кіраўніцтвам Багдана Хмяльніцкага, з'яўляецца шляхціц-волат Лангінус Падбіпента (у рускім перакладзе – Лонгин Подбейпята або Лонгинус Подбипятка). Характэрна, што гэты персанаж быў беларускамоўным літвінам, якога жаданне выканаць дадзены Панне Марыі зарок завяло ў палаючую агнём Украіну.**



«Скшэтускі з цікавасцю прыглядаўся да новага знаёмца, які і насамрэч заслугоўваў называцца дзіваком. Гэта быў мужчына росту такога высокага, што галавою амаль датыкаўся столевага бярвення; небывалая ж худзізна рабіла яго і зусім даўгалыгім. Хоць увесь ён быў скура ды косткі, шырокія плечы і жылістая шыя сведчылі аб незвычайнай сіле. Надзіва запала жывот наводзіў на думку, што чалавек гэты прыехаў з галоднага краю, аднак апрануты ён быў ладна – у шэрую свебадзінскага сукна куртку з вузкімі рукавамі, добра якая сядзела, і ў высокіх шведскіх ботах, якія пачыналі на Літве ўваходзіць на ўжытак. Шырокі і туга набіты лосевы пояс, не маючы на чым трымацца, спаўзаў на самыя сцёгны, а да пояса быў прывязаны крыжацкі меч, такі доўгі, што мужу таму вялізнаму амаль да падпах дасягаў», - гаворыцца ў творы пра пана Лангінуса.

Паходзіў Лангінус Падбіпента ад Ставейкі Падбіпенты, які ў 1410 годзе ў бітве пад Грунвальдам адным ударам адсек галовы адразу тром манахам-крыжакам, за што і атрымаў ад караля герб «Зэрвікаптур» (літаральна, «Сарвікапюшон», у рускім перакладзе – «Сорвиглавец»). Адкуль родам быў Ставейка, аўтар не паказвае, але сугучча яго імя з шэрагам шляхецкіх прозвішчаў ВКЛ (Мінейка, Дамейка), дае падставу меркаваць, што паходжаннем ён быў таксама літвін.

**Характэрна, што на тэрыторыі сучаснай Беларусі ў XVII стагоддзі (да якога належыць дзеянне рамана) жылі прадстаўнікі роду Падбіпентаў. Так, каля 1624 згадваецца Рыгор (Рамуальд) Іванавіч Падбіпента, які валодаў землямі ў Глыбоцкім раёне Віцебскай вобласці (вёска Пліса).**

У памяць аб сваім продку Ставейку Лангінус Падбіпента даў у Троках (цяпер – Тракай, Літва) зарок Панне Марыі, паабяцаўшы ёй захоўваць цнатлівасць, пакуль не паўторыць подзвіг свайго продка. Паўтарыць подзвіг яму на самай справе выпала падчас аблогі казацка-татарскім войскам замка Збараж (Тэрнопальская вобласць Украіны), аднак неўзабаве ён будзе забіты татарамі пры спробе прабрацца да караля і вялікага князя Яна Казіміра.

Што тычыцца Вялікага Княства Літоўскага (Літвы), то яно ў рамане апісваецца як правінцыйны, старамодны і нават крыху дзікі край у дачыненні да Польшчы («шведскія боты, якія пачыналі на Літве ўваходзіць ва ўжытак», «збягуць кудынебудзь у літоўскія або мазавецкія пушчы, дзе да іх нават магутная княжая рука не знойдзе»), аднак усё ж больш цывілізаваны, чым Украіна («здзіўлены таксама быў і пан Лангінус Падбіпента, які звыкся ў сябе на Літве да іншых звычаяў»).

Самае ж цікавае – гэта мова, на якой размаўляў пан Падбіпента. На жаль, рускі пераклад не перадае асаблівасцяў «спеўнай літоўскай гаворкі» волата. Аднак арыгінал усё ж дае ўяўленне, што ўяўляў сабой «spiewny litewski akcent» Лангінуса Падбіпенты. «Sluchac hadko (Слухаць гадка)», – гаварыў ён з тыповым беларускім фрыкатыўны «г», калі чуў непрыстойнасці ад свайго сябра пана Пана Заглобы.

Характэрна, што адзін з персанажаў другой кнігі з трылогіі Генрыка Сянкевіча «Патоп», дзеянні якой у значнай меры адбываюцца на тэрыторыі ВКЛ, – жмудзін, які размаўляе ўжо з літоўскім (у сучасным разуменні гэтага слова) акцэнтам. «Panas Kmitas», – кажа ён, абвяшчаючы аб прыездзе Анджэя Кміціца.

Адзначым, што род Генрыка Сянкевіча паходзіў з Вялікага Княства Літоўскага, ён часта бываў на былых яго землях, шмат часу правёў на хутары Дубнікі (Астравецкі раён Гродзенскай вобласці) на самай мяжы сучасных Літвы і Беларусі. Так што пра беларускую і літоўскую мовы ён ведаў не па чутках, а значыць, і не без прычыны размаўлялі ў яго літвіны з беларускім акцэнтам, тады як па-літоўску гаварылі жмудзіны.

***Максім Гацак,*** *http://telegraf.by*

**Ад рэдакцыі.** Нагадаем нашым чытачам, што да 1840 года сённяшнія беларусы і Беларусь мелі назвы – літвіны (літоўцы) і Літва. Цяперашнія літоўцы і Літва на той час называліся – жмудзіны і Жмудзь альбо Жамайцыя.

Дарэчы, вул. М. Горкага ў Глыбокім да 1939 года насіла імя пісьменніка Генрыка Сянкевіча.

# Лебедзя гадуем усёй вёскай

**Зміцер Лупач,**
*тэкст і фота.*

**У вёсцы Праходы Глыбоцкага раёна ўжо другі месяц жыве лебедзь. Як распавяла жыхарка гэтай вёскі Юзэфа Рыжая, падчас моцных маразоў лебедзь сам прыйшоў у яе двор за дапамогай. У яго было пашкоджанае крыло і падмёрзлыя лапы.**

Два тыдні лебедзь жыў у хаце спадарыні Юзэфы. Яна дала яму мянушку Хан. Пра Хана яна распавядае як пра члена сям'і: "Я печку таплю, а ён ляжа ля печкі, шыю выцягне і грэецца". Па словах жанчыны, ноччу лебедзь вёў сябе спакойна: "Я кладуся спаць, і ён пад вечар становіцца нейкі сонны, і ўсю ноч яго не было чуваць." Праўда, як на вуліцы пацяплела, лебедзь стаў трохі шкодзіць у хаце, дзяўбсці занавескі, часцей заглядаць у акно. Тады цётка Юзэфа перанесла яго ў хлеў да суседкі Веры Радзевіч.

Спадарыня Вера таксама вельмі цёпла адгукаецца пра Хана, паказвае, як ён танцуе, калі яму прыносяць яду. Праўда, з часам птушка ў хлеве стала сумаваць, вядома ж, ёй патрэбная воля. Дзеці спадарыні Юзэфы патэлефанавалі ў ахову прыроды з пытаннем, што ім рабіць. Па іх словах, там ім параілі адкруціць птушцы галаву і не рабіць з гэтага праблемы.





Праўда, у Глыбоцкай інспекцыі па ахове расліннага і жывёльнага свету карэспандэнтам паведамілі, што гэта быў жарт, а, наогул, інспекцыя займаецца аховай прыродных багаццяў ад людзей, больш дакладна, ад браканьераў, а тыя працэсы, што адбываюцца ў самой прыродзе, іх не датычыць. Вядома, з гэтым можна пагадзіцца: не будзе ж інспектар ахоўваць зайца ад ваўка або лісіцы. Але для людзей лебедзь птушка асаблівая. Яна лічыцца сімвалам і прыгажосці, і вернасці, таму і стаўленне да яе асобае.

Начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі Аляксей Протас паведаміў, што лебедзя можна выпусціць у рэчку ў Глыбокім, яна не замярзае, там качкі жывуць, і лебедзь выжыве. Тым больш, жыхары Глыбокага не дадуць яму памерці з голаду.

Спачатку жанчыны скардзіліся, чаму інспектары не прыехалі да іх, каб забраць птушку, бо ў іх саміх транспарту няма, каб яго адвесці.

Потым яны гатовыя былі аддаць яго журналістам, каб яны выпусцілі яго ў глыбоцкую рэчку, але ў апошні момант перадумалі. "Будзем самі яго гадаваць, а то ў Глыбокім яго яшчэ заб'юць. Ён жа амаль ручны ў нас стаў. Яго могуць падклікаць злыя людзі, а потым…" – перажываюць жанчыны. — Зараз кожны жыхар вёскі купляе ў аўталаўцы батон для Хана. Таму да вясны дагадуем."

Жанчын зразумець можна, у вёсцы Праходы зараз засталося толькі дзесяць жыхароў, усе пенсіянеры. Таму Хан прыўнёс у жыццё вёскі нешта новае.

Лёсам лебедзя цікавіўся нават старшыня Карабоўскага сельсавета Яўген Татун. "Нават камбікорму прапанаваў прывесці для яго, але Хан, акрамя батона, нічога іншага есці не хоча. Давалі яму рыбу купленую, не хоча, відаць, есць толькі тую, што сам зловіць," – кажа Вера Радзевіч.

Мы папрасілі жанчын трымаць нас у курсе справы і паклікаць нас у той момант, калі яны будуць адпускаць яго на волю. Таму, калі нас паклічуць, мы абавязкова раскажам пра гэта чытачам.

# У выпадку нявыплаты абавязковых страхавых узносаў у ФСАН могуць прыпыняцца аперацыі плацельшчыкаў па банкаўскіх рахунках

**Аляксандр Лукашэнка 21 лютага падпісаў указ № 87 «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў ва ўказы прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па пытаннях дзяржаўнага сацыяльнага страхавання».**

Якадзначылапрэс-служба прэзідэнта, дакумент прыняты «з мэтай забеспячэння поўнага і своечасовага паступлення плацяжоў у бюджэт дзяржаўнага пазабюджэтнага Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва Беларусі, а таксама ўзмацнення плацежнай дысцыпліны».

Указ дае органам Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва Мінпрацы і сацабароны права ў выпадках нявыплаты (няпоўнай выплаты) ва ўстаноўленыя заканадаўствам тэрміны абавязковых страхавых узносаў, узносаў на прафесійнае пенсійнае страхаванне і іншых плацяжоў у бюджэт дзяржаўнага пазабюджэтнага Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва прыпыняць аперацыі плацельшчыкаў абавязковых страхавых узносаў па бягучых (разліковых) банкаўскіх рахунках, а таксама атрымліваць ад банкаў інфармацыю аб рэштках і руху сродкаў на гэтых рахунках.

Уводзіцца таксама забарона на адкрыццё банкам новых разліковых рахункаў плацельшчыкудаўжніку пры наяўнасці рашэння органаў фонду аб прыпыненні аперацый па яго разліковых рахунках.

Унесены змяненні ў частцы выплаты абавязковых страхавых узносаў індывідуальнымі прадпрымальнікамі, натарыусамі і адвакатамі. Спрошчаны разлік сумы абавязковых страхавых узносаў, якая падлягае выплаце, для названай катэгорыі плацельшчыкаў. Для іх таксама ўстаноўлены мінімальны памер плацяжу ў бюджэт фонду, падлічаны з мінімальнай заработнай платы з улікам яе індэксацыі.

***М. Носава, БелаПАН.***

# Чалавек на зямлі

**А дзе ж той выхад? Дзе ж збавенне**
**З няволі цяжкай, з паланення?**
**Адзін ён ёсць: зямля, зямля,**
**Свой пэўны кут, свая ралля:**
**То – наймацнейшая аснова…**
**Зямля не зменіць і не здрадзіць,**
**Зямля паможа і дарадзіць,**
**Зямля дасць волю, дасць і сілы,**
**Зямля паслужыць да магілы,**
**Зямля дзяцей тваіх не кіне,**
**Зямля – аснова ўсёй Айчыне.**

*Якуб Колас*



■ **Фадзей Шымуковіч,**
*настаўнік-пенсіянер, Былы прапагандыст партвучобы г. Дзісна.*



Не адкрыю ісціны, калі скажу, што самым бясцэнным багаццем, якім валодае чалавек, з'яўляецца зямля. Яна – прарадзіцельніца ўсяго нашага жыцця; яна ўскарміла чалавека, паставіла яго на ногі і адкрыла дарогу да цывілізацыі і прагрэсу. Чалавек пакланяўся зямлі і абагаўляў яе, лелеяў і абхажваў, як бы нешта жывое, праліваў на ёй пот і кроў і ўкладваў у яе ўсё сваё жыццё і душу, а парой… звяртаўся да яе і адносіўся як са смеццем, нібыта чымсьці непатрэбным, што не мае кошту. На мой погляд, ні ў адной краіне свету не абыходзяцца з зямлёй так не па-гаспадарску, як гэта робім мы.

Вазьміце любую будоўлю, сотні, тысячы гектараў ворнай зямлі, лугоў, адведзеных пад будоўлю, пладародны слой проста знішчаецца. Нікому ў галаву не прыходзіць, каб яго забуртаваць і закансерваваць па той прычыне, што гэта дарагакаштуючая работа. Нікому ў галаву не прыходзіць, што прыродзе, каб утварыць адзін сантыметр ворнага гарызонта, патрэбна цэлых сто гадоў! Нездарма ж у час Другой сусветнай вайны немцы па чыгунцы ў вагонах з Украіны, Галандыі і іншых месц вывозілі пладародны слой у Германію. У нас маецца Дэкрэт аб зямлі. Неабходна прыняць Закон аб землекарыстанні, як прыняты Закон аб дзяржаўным прадпрыемстве.

Чаму ж так распаўсюдзілася ў нас сёння безгаспадарчасць, распуста, наплявацельскія, калі не сказаць больш, адносіны да любой справы? Прычын шмат, але што тычыцца сельскай гаспадаркі, то яна, па суці, адзіная і добра бачная – чалавек, або як мы прывыклі казаць "чалавечы фактар". Чалавек, які не корміцца з зямлі, гэта значыць, не валодае ёй фактычна, не мае магчымасці працаваць на ёй інакш, як падзёншчык. Дзесяцігоддзямі ён заставаўся як бы адгароджаным ад канчатковага выніку – самога сэнсу працы – і паступова прывучаны быў лічыць галоўным у сваёй працы не зямлю, а прыладу, на якой ён працаваў: трактар, камбайн, сельскагаспадарчыя машыны, ад іх спраўнасці, або няспраўнасці залежала яго аплата. Ён стараўся сваю тэхніку трымаць у спраўным стане, выканаць на ёй больш эталона адзінак уліку аб'ёму працы, а не зямлю і якасць сваёй працы, якія давалі ўраджай.

Душа чалавека апусташалася. Людзі былі пастаўлены ва ўмовы, пры якіх яны не мелі магчымасці сцвярджаць сябе на зямлі працай, якая б прыносіла б не толькі дзяржаве, а і самому працаўніку і яго сям'і дабрабыт і дастатак. У калгасніка працоўны дзень ад зары і да зары, але і тут па сённяшні дзень яго праца абязлічана: яму не трэба ўставаць раней (нават калі б захацеў – не трэба), ад яго не залежыць – пасеюць заўтра, а можа паслязаўтра, на якую глыбіню ўзаруць, колькі і якіх угнаенняў унесці, які гатунак насення высяваць, – ад яго нічога не залежыць. Ад яго толькі патрабуецца, каб ён трымаў трактар ці камбайн у парадку і разам з іншымі выйшаў на працу араць ці ўбіраць.

Рускі пісьменнік А.А. Радзішчаў яшчэ ў 18 стагоддзі ў сваім артыкуле "Описание моего владения" прывёў даволі цікавы разлік: колькі людзей, скаціны і іншай жыўнасці максімальна магло б пракарміцца (у тыя гады і ў тых умовах сельскай працы і побыту)на дзесяціне зямлі. Ён браў у прыклад нечарназем'е. Мы, на жаль, гэтага не робім, а можа і дарэмна. Падобныя даследаванні маглі б паказаць нам (і таксама ў лічбах), што, калі зямля была аддадзена сялянам (за пэўны выкуп) і калі селянін стаў з любоўю прыкладваць да яе рукі  і душу, яна ўдвая і ўтрая дала больш зерня і кармоў, чым меркаваў сам Радзішчаў. Гэта ж зямля цяпер са сваімі паўпустымі вёскамі, а то і зусім апусцеўшымі вёсачкамі і хутарамі як бы ўпала ў спячку, а мы пастаянна скардзімся то на дрэннае надвор'е, то на дрэнных кіраўнікоў і ўсе разам, хорам – на селяніна, які не ўмее ні зямлю араць як трэба, ні жыць на сваёй зямлі, а толькі піць і красьці, што дрэнна ляжыць.

Да калектывізацыі ў нашай сям'і з 6 душ: тата, мама, бабуля і нас трое, як боб, дзяцей (3, 5 і 7 год) было 3,5 гектары зямлі. Трэба дадаць яшчэ, што з гэтай зямлі трэба было гадаваць каня, карову, парасёнка і курэй. Не раскашавалі, але і не галадалі, таму што за зямлёй глядзелі як за малым дзіцём. А пасля заканчэння вайны, калі ў 1947 годзе тату адпусцілі з Іркуцкай вобласці з шахтаў, і мы да сваіх 3,5 гектараў прыбавілі яшчэ 2га пустуючых зямель, то змаглі паспяхова плаціць дзяржаве натуральны падатак: зерне, бульбу, гародніну, малако, яйкі, мяса і грошы, забяспечыць прадуктамі сям'ю, а частку прадукцыі прадаць на рынку. А калі мы, дзеці, сталі падрастаць і больш эфектыўна прымаць удзел у гаспадарчай працы, зямля стала больш удзячна нас адорваць.

У сельскай гаспадарцы, як ва ўсякай справе, павінен быць дакладны ўлік. Усякія прыпіскі неатрыманай прадукцыі прыводзяць не да паляпшэння вынікаў працы, а наадварот. Помню, у пачатку 70-х гадоў давялося працаваць намеснікам старшыні і парторгам калгаса. 1962 год быў неўраджайным. Уборку зерневых правялі дрэнна, не было камбайнаў. Таму, пакуль скасілі збажыну, пакуль зграбілі ў копны ды звязлі ў скірды, абмалацілі – страты былі вялікія. З вялікай нацяжкай вывелі ўраджайнасць 16,2 ц\га. Старшыню гаспадаркі і мяне выклікалі да першага сакратара РК КПБ. За 10 хвілін знаходжання ў яго кабінеце ўраджайнасць вырасла на 2 ц\га. Толькі вясной скаціну карміць было нечым.

Летам 2013 года нашу Дзісну наведаў Якабсон Аляксандр Серафімавіч з мэтай вывучэння настрою насельніцтва. Я амаль 60 гадоў аддаў грамадскай справе, у асноўным на ідэалагічным фронце: прапагандыст, лектар, нештатны карэспандэнт і г.д. Абстаноўку ведаю нядрэнна, маю сваю думку, як лепш вырашыць некаторыя хібы. Вось і прапанаваў я Аляксандру Серафімавічу для таго, каб нам лепш бачыць нашы хібы ў сельскай гаспадарцы, – выключыць рознага роду прыпіскі ці карэкцыю вынікаў працы той або іншай галіны, адмовіцца ў справаздачы такіх паказчыкаў, як ураджайнасць у ц\га ў бункернай вазе, у надоях малака на карову і ў сутачных прывагах свіней і БРЖ, а ўсё гэта замяніць чыстым даходам у рублях на гектар сельгасугоддзяў і на гектар ворнай зямлі. Аляксандр Серафімавіч ухваліў маю прапанову, сказаў, што там, у вярхах, разглядаецца такі варыянт, але пакуль што не так проста яго ажыццявіць. Хаця з пункту гледжання школьнага выкладчыка матэматыкі, гэта не праблема, раздзяліў чысты прыбытак на колькасць гектараў - і гатовы вынік. А галоўная яго каштоўнасць, што вынік працы не падкарэкціруеш, колькасць грошай у банку не прыпішаш.

Паколькі большасць нашых раёнаў аграрныя, а асноўны прыбытак ад вытворчасці малака і мяса, то і трэба асобую ўвагу надаваць гэтай галіне. У свой час, калі мне самому давялося трымаць карову, то ва ўмовах Дзісны рабіць гэта было не так проста. Летам, паша бедная на травастой, вымушала кожны дзень знайсці падкормку на ноч. Так што ў рысе горада ўсё, што толькі можна было выкасіць пад абоімі рэкамі, на стадыёне і пустырах, выкашвалася. Была двайная карысць: і падкормка, і парадак. А таму і кароўка давала больш 5000л малака за год, і гэта без канцэнтратаў. А што мы маем у калектыўных гаспадарках? У 1990 годзе ў раёне было нарыхтавана 20,4 ц кармоў на ўмоўную галаву БРЖ. Пры гэтым уся салома, яравая і азімая ўваходзіла ў кармавы баланс, канцэнтратаў было мала. Надой на фуражную карову склаў 3119л. Прайшло 20 гадоў, а што змянілася? Цяпер кармоў нарыхтоўваем амаль у 1,7-2 разы больш. Ды і якасць другая – сянаж, кукурузны сілас, сена, канцэнтраты. А выніку: 2011 – 3707л, 2012г – 3803л, 2013г – 3618л. Топчымся на месцы, а значнага руху наперад няма, і ў перспектыве нябачна. Адкуль яму быць, калі людзі, якія абслугоўваюць гэту галіну адносяцца абыякава, часта ў нецвярозым стане. У 2013г наша раённая дэлегацыя ездзіла ў Ізраіль за вопытам. У райгазеце за 26.01.2013г быў артыкул "Подых Ізраіля", згодна якога іх каровы амаль не адрозніваюцца ад нашых. На корм ім прывезлі ў кубічных вялікіх цюках салому жоўтага і карычневага колеру, у кармацэху здрабнілі, дабавілі неабходныя дабаўкі і кормараздатчык даставіў жывёле. Нічога як быццам асобага і няма, калі не ўлічваць, што надой складае 8-12 тысяч кг малака.

Перада мной газета "Наша Ніва" за 1908 год, у якой карэспандэнт піша, што нашы каровы тады давалі 500 гарцаў(2824л) малака. А вось ужо тады датчане карову, якая давала 1000 гарцаў (5647л) лічылі дрэннай. Але ж нашы прадзеды і прапрадзеды у першую чаргу лепш карцілі каня, бо ён лічыўся карміцелем сям'і, а беднай кароўцы тое, што засталося ад каня. Тым бы кароўкам ды сённяшні корм! Але навошта далёка хадзіць. Хіба нашы сяльчане будуць трымаць у сваёй гаспадарцы карову, якая не дае 5,5-6 тысяч літраў малака? Так што даўно пара звярнуць увагу на малочны статак. Калі мы і набудуем памяшканняў з навейшым абсталяваннем для даення, малака не стане больш. Каб яго значна павялічылася, трэба мець пародзісты, высокаўдойны статак, збалансаваны корм і, галоўнае, добрасумленны абслугоўваючы персанал. Алкаголікі-даяркі вельмі хутка адправяць высокаўдойны статак на мясакамбінат.

Дзіву даешся, як гэта трэба ўмудрыцца, каб на вытворчасці ялавічыны атрымаць мільярдныя страты. На сваім падвор'і я ніколі не пускаў пад нож цялятак-сасункоў. Гэта вельмі неразумна. Я вырасціў 4 першацёлак, 4 бычкоў узростам 18 месяцаў здаў на мясакамбінат. А калі не ўдавалася на зіму нарыхтаваць сена на 2 галавы БРЖ, то бычка ва ўзросце 8 месяцаў скарыстоўваў у сваёй гаспадарцы.

Але давайце займёмся некаторымі разлікамі. Бычок-адкормачнік за 18 месяцаў, лічы 550 дней, меў заліковую вагу 470-475кг. Калі адкінуць вагу народжанага цялёнка 30кг, а гэта добрая вага цяляці, то выходзіць, што за 550 дней ён у мяне набіраў 440кг прывагі. Арыфметыка простая: 440:550=0,8. Значыць, у сярэднім за дзень ён набіраў у мяне 800г прывагі. Вядома ж, паённічак можа набраць 400-450г. На дарошчванні 800г, а на адкорме больш 1кг. Вось мне і незразумела, якім чынам у гаспадарках раёна за 2013 год СВК "Юбілейны" атрымаў сярэднесутачную прывагу 327г? Гэта ж трэба ўмудрыцца! Паённічак павінен даваць такую, а то і большую прывагу.

Я ўжо пісаў, што гадаваць жывёлу ва ўмовах г. Дзісны вельмі цяжка, таму што праблемна з кармамі. Адкорм праходзіць ва ўмове стойлавага ўтрымання. Патрэбна зялёная маса, а яе няма. Вось і прыходзілася пасля школы садзіцца на веласіпед, браць дзве вялікія торбы і мех-кітаец і ў радыусе 2-3км адшукаць, а гэта была самая адказная аперацыя, дзе можна накасіць, таму што такіх шукальнікаў было шмат, накасіць, загрузіць у тару, пагрузіць на веласіпед і прывезці дадому. І так кожны Божы дзень. Што тычыцца канцэнтратаў, то іх у мяне крайне не хапала, таму што было 2-3 кабанчыкі, а гэта кузуркі хлебныя. Бедным бычкам гэтых "дэлікатэсаў" пападала рэдка. І між тым, у такіх умовах я меў прыбытак. Здаваў праз калгас "1Мая" па цане 1,96 руб. за кілаграм, плюс надбаўкі за "цяжкавагавіка", выручка аднаго галавы склала 1060руб., 5-6 такіх бычкоў - і легкавушка ў гаражы. Да таго ж калгас бясплатна выдзяляў 10 сотак сенакосу. Ну хто адважыцца сказаць, што ялавічына стратная?!

Але чаму ж яна стратная ў СВК-калгасах? Пры тым, што там кармоў дастаткова, якасных, канцэнтраты. Але ніхто не хоча бачыць розніцу паміж тэрмінам "выпісваюць" і "даюць". Выпісаць можна колькі ўгодна, а даць можна  менш палавіны выпісанага. Ёсць жа нормы расходу кармоў на адзінку прывагі. Але хто займаецца гэтым кантролем? Ніхто. Неяк 4.01.2011 года Віцебскае тэлебачанне сваю праграму "Сяльчане" прысвяціла СПК "Нурава" Верхнядзвінскага раёна. Дырэктар гаспадаркі паведаміў, што калі ён прыняў гаспадарку, то яго зацікавілі абставіны, пры якіх вытворчасць ялавічыны прынесла страты, хоць было расходавана намнога больш нормы кармоў. Парушальнікі былі звольнены, а на іх месца падабраны новы штат, нават у меншай колькасці. Праз паўгода, у пачатку снежня, адкормачнікі былі здадзены на мясакамбінат. Вынік быў па сапастаўленні з папярэднім ашаламляльны. Калі раней на адкорме прывага складала 500-550г, то цяпер на дарошчванні атрымалі 800г, а адкормачнікі далі прывагу ў 1033г. Гаспадарка замест страт атрымала добры чысты прыбытак, а даглядчыкі вельмі добры заробак. Кіраўніцтва і заавецслужба лічыць, што пры пераходзе на інтэнсіўны метад адкорму вынікі будуць яшчэ большыя. Прычыны поспеху – за справу ўзяліся працавітыя і сумленныя людзі, для якіх вынік працы – сумленне і гонар.

Так што вынік працы на зямлі залежыць не толькі ад таго, каму яна належыць. Гісторыя ведае нямала прыкладаў, калі ў побач жывучых гаспадароў-аднаасобнікаў былі розныя вынікі іх працы ад апрацоўваемай імі зямлі. Мы ведаем, калі калгасы ўзначальвалі ініцыятыўныя і талковыя гаспадары-старшыні, то іх гаспадаркі мелі вельмі добрыя вынікі. Толькі тая бяда, што такія кіраўнікі сустракаліся як выключэнне, досыць рэдка.

Так што на якой аснове будзе будавацца наш аграрны комплекс, рашаць не нам. Але трэба ўлічваць зацікаўленасць уласніка, гаспадара зямлі і наёмнага работніка, які зацікаўлены ў размеры заробка.

Кватэру 4-пакаёвую ў 2-кватэрным катэджы, 102$м^2$, Глыбокае, еўрарамонт, мэбля, гараж, кошт па дамове. Т.: 8-029-714-44-65(мтс), 8-029-514-44-05(мтс)***

Дом у г. Глыбокае. Тэл. 2-24-35, 8-029-593-87-63

Кватэру 1-пакаевую, 5 паверх, добры рамонт, у г/п Падсвілле. Тэл. 8-029-894-80-92, 8-029-815-33-20

Дом цагляны, агульная 103 кв.м., жылая 72 кв.м., санвузел, калодзеж, гараж блочны, хлявы цагляны і драўляны, зямельны ўчастак 33 соткі. Тэл. 8-033-359-68-78

Кватэру 3-пакаевую ў г/п Шаркоўшчына, 54.5 кв.м. з выгодамі, 1 паверх. Тэл. 8-033-370-84-62

Жылы дом, вёска Гваздова, жылая пл. 50 $м^2$. Тэл. 8-025-789-23-15

Паўдома ў цэнтры горада Глыбокае, з частковымі выгодамі (вада, каналізацыя). Тэл. 8-029 511-37-49

Кватэру 1-пакаевую, 1/4-павярховага дома, мебліраваную, 36 кв/м, вуліца Юбілейная, 25000 у.а. Тэл. 8-029-596-54-00

Кватэру 3-пакаёвую з офісам і рамонтам, часткова з мэбляй для бізнасу і пражывання, р-н ЖКГ, 1-ы паверх. Т.: +37529-307-38-90(в), +37529-578-59-40(мтс)****

Дом у вёсцы. Т.: 8-033-678-55-78

## Куплю нерухомасць:

Дом у вёсцы.Т:8-029-295-65-42 (мтс), 8-029-892-87-21(мтс)

Тэрмінова куплю гараж у р-не ПТУ, з электрычнасцю і дакументамі. Дорага. Т.: 8-029-594-20-44, 2-15-06

Дом у вёсцы, нядорага. Т.: 8-029-593-91-95****

## Абмен:

Абмяняю 4-пакаёвую добраўпарадкаваную кватэру на 2-х і 1-пакаёвую, або 2-пакаёвую, або невялікі дом з даплатай. Разгледзім любыя варыянты. Т.: 8-029-211-74-67(мтс) (пасля 18.00)*

Абмяняю 3-пакаёвую кватэру ў р-не МКК, побач дзіцячы сад, 150м школа, 4-ы паверх на 2-пакаёвую кватэру з даплатай. Т.: 818-05-60(мтс)**

Абмяняю дом у в. Станулі з усімі выгодамі, гаспабудовы, гараж, лазня, з газавым ацяпленнем, на 2-3-пакаёвую кватэру ў р-не МКК, ніжнія паверхі.Т.:8029-623-05-56(в)***

## Здыму:

Маладая сям'я без дзяцей тэрмінова здыме кватэру на працяглы тэрмін. Парадак, цішыню і своечасовую аплату гарантуем. Т.: 8-029-592-22-30, 8-033-697-97-69

Здыму 2-пакаёвую кватэру. Аплату і парадак гарантую. Т.: 553-33-71(мтс)*

Маладая сям'я здыме кватэру з усімі выгодамі на працяглы тэрмін. Парадак і своечасовую аплату гарантуем. Т.: +37533-324-68-57**

Маладая сям'я з 3-х чалавек здыме кватэру ў Глыбокім. Парадак і своечасовую аплату гарантуем.Т:800-20-52(мтс)(Лена)

Маладая сям'я здыме кватэру на працяглы тэрмін. Парадак і своечасовую аплату гарантуем. Т.: +37533-337-56-04, +37529-890-67-23

Маладая сям'я без дзяцей здыме кватэру ў Глыбокім. Парадак і своечасовую аплату гарантуем. Т.: 298-26-55(мтс), 677-07-96(мтс)***

Маладая сям'я здыме жыллё на працяглы тэрмін. Парадак і аплату гарантуем. Т.: 8-029-595-48-46(мтс)*

Маладая сям'я з дзіцём тэрмінова здыме жыллё на працяглы тэрмін, можна і без мэблі. Парадак і своечасовую аплату гарантуем. Т.: 833-93-60(мтс)*

Маладая сям'я (3 чалавекі), здыме кватэру, парадак і своечасовую аплату гарантую. Тэл. 8-029 714-49-51, 8-033-676-04-26

Прыстойны малады чалавек здыме кватэру, пакой на працяглы тэрмін. Т.: 8-029-104-80-19(в)

Маладая сям'я здыме жыллё на працяглы тэрмін. Т.: +37533-309-45-82(мтс)

## Здам:

Здам памяшканне 96$м^2$, г. Мёры, у арэнду на працяглы тэрмін. Т.: 718-05-31(мтс)***

## Мэбля на продаж:

Кухні новыя, вуглавыя, прамыя, да 4м, выбар варыянтаў і колераў, элітныя, усе ў наяўнасці. Магчымы крэдыт, 3,350 млн. руб. Спальні, прыхожыя, нядорага. УНН 391054834 выд.22.03.2010г Глыбоцкім РВК. Т.: 8-029-286-65-32(мтс)

Выраб: кухні, шафы-купэ, па Вашых памерах. Якасць. Нядорага. УНП391054410. Т.: 8-029-513-34-12**

Сучасная мяккая мэбля (магчымасць па жаданню пакупніка заказаць мэблю любога колеру з 3 тыс. найменняў тканіны). Недарагія фабрычныя кухні, спальні, прыхожыя, камоды, матрацы, мэбля з ротанга і мн. іншае. Бясплатныя кансультацыі спецыялістаў. Беспрацэнтная растэрміноўка плацяжу да 5 месяцаў. Г. Глыбокае, вул. Дзяржынскага, 8 (каля сельгастэхнікі). УЕП390506031. Т.: 8-02156-2-68-55, 210-21-08)мтс)***

Мэблю для магазіна. Т.: 8-029-297-70-12(мтс)***

Ложак 2-спальны б\у. Т.: 294-12-63(мтс)*

Спальню б\у і мяккі куток б\у. Т.: 718-11-01(мтс)*

Спальню і прыхожую б\у. Т.: 592-62-09

Ложак 1,5-спальны. Т.: 2-62-66, 8-033-601-15-22

Шафу 3-дзвёрную з антрэсолямі, ц\карычневая, паліраваная, 1млн.руб. Т.: 329-55-20, 329-55-18(мтс)

Мэблю б\у нядорага: канапа + крэсла (патрабуе рамонту), столік журнальны, тахту, крэслы, тумбачкі, люстэрка, кнігі, сейф, рогі лася. Т.: 8-029-716-15-34 (пасля 18.00)

Мяккі куток (новы), стол пісьмовы, секцыю 1,5х2м. Т.: 813-33-35(мтс)

Тахту (700.000), канапу (600.000), шафу 3-дзверную (600.000), крэсла мяккае ад набору 2 шт. па (300.000). Тэл. 8-029-595-33-89

Мяккі куток, вуглавую канапу з крэслам, светлая, выдатны стан, б\у. Тэрмінова! Т.: 2-15-06, 8-029-594-20-44***

Мяккі куток 3-2-1 «Пінскдрэў», б\у, 8млн. руб., торг. Т.: 8-029-712-99-10(мтс), 510-34-31(мтс)

Стол камп'ютарны, колер венге, б\у, 1млн. руб. Т.: 8-029-712-99-10(мтс), 510-34-31(мтс)

## Забяру мэблю:

Забяру старую мэблю: кухонны гарнітур, стол, рэчавую шафу, крэслы, дыван (ковёр). Т.: +37533-341-05-09(мтс)

## Прадам аўдыё-відэа, музычныя інструменты:

Лазар-радар-дэтэктар«WHISTLER-XTR-335» з галасавым паведамленнем, відэарэгістратар «Ritmix-AUR-330» . Аўтамабільны відэарэгістратар з GPS радар-дэтэктарам з галасавым паведамленнем GR-88. Усё новае, гарантыя 1 год.Т.:8029-514-18-40(мтс)

Відэарэгістратар «Vehicle Blackbox 1080», відэа - 1920*1080, фота 5Мп, вугал агляду аб'ектыва 140 градусаў, памер 90х53х25 мм, новы, 470 тыс. руб. Т.: 8-029-120-82-52(в)

Улічваючы, што закрываецца DVD-пракат па вул. Леніна, 28\1, праводзіцца распродаж усіх дыскаў па 5 тыс. руб. Пасв. 390029356. Т.: 2-28-51, 8-029-214-34-53(мтс)***

Відэакамеру «Соні», 150у.а. Т.: 598-46-25

## Куплю аўдыё-відэа, музычныя інструменты:

Балалайку. Т.: 517-46-14[+]

## Прадам камп'ютары і камплектуючыя:

Планшэт «ASUS Nexus 7», 16Гб, чорны, памер экрана 7", 1920х1200, Андроід 4.3, працэсар 4-ядзерны, 16Гб, Wi-Fi, блютуз, GPS, 2 фотакамеры, новы, нядорага. Т.: 8-029-743-81-43(мтс)

Ксеракс, крыху б\у, 55у.а. Т.: 8-029-892-87-21(мтс)

Камп'ютар і камплектуючыя да яго. Т.: 8-029-294-36-16(мтс)**

Планшэт «OGGI» новы, ва ўпакоўцы, 1,5млн. руб. Т.: 8-029-717-69-38***

Руль для камп'ютара. Т.: 8-033-329-51-91

Два маніторы б\у да камп'ютара. Т.: 8-029-517-92-78

## Прадам катлы, сантэхабсталяванне:

Кацёл для лазні (бані) высокапрадукцыйны,жарастойкая сталь, 380у.а., ацяпляльны кацёл (паравы) для дома,4,1млн. руб. Т.: 8-029-286-65-32(мтс)

Катлы новыя, вялікі выбар, напрамую са склада, магчыма растэрміноўка плацяжу + магчыма дастаўка, мантаж, КСТ-12,5-4,1млн. руб, КСТ-16=4,350млн. руб, КС-ТГВО-25=5,850млн. руб., КС-ТГВД-20=6,370млн.руб, КС-Т-25У (Камфорт)=6,770млн.руб., эксплуатуюцца на дровах, брыкеце і вугалю, сартыфікаваныя, з завадской гарантыяй, вытв. РБ, з магчымасцю падключэння прыроднага газу. Высокапрадукцыйныя, эканамічныя, з убудаваным асобным бойлерам для гарачай вады для кухні, ванны, газагарэлачнае прыстасаванне для эксплуатацыі дадзеных катлоў на прародным газе (дадаткова 670 тыс. руб). УНН391054834 выд. 22.03.2010г. Глыбоцкім РВК. Т.: 8-029-286-65-32(мтс), 8-029-120-82-52(в)

Кацёл у лазню.Т.:309-44-81(мтс)

Кацёл ацяпляльны ў пліту б\у. Т.: 3-03-40, 714-46-25(мтс), 612-81-58(мтс)

Кацёл для лазні новы. Т.: 597-25-12(мтс)

## Прадам будматэрыялы:

Дзверы ўваходныя, жалезныя, новыя, 190у.а. Т.: 8-029-286-65-32(мтс)

Блокі сілікатныя (пенаблокі), нядорага. Пліты перакрыцця П-абразныя 6х1,5м, 4шт., 670 тыс. руб\шт. Шыфер б\у. Т.: 8-029-892-87-21(мтс)

Пліты перакрыцця 1,2х6, 1,5х6, 5,8х1,5, 1,4млн. руб\шт. Шыфер 8-хвалевы б\у, 30 тыс. руб\шт. Цэглу чырвоную б\у, 2000руб\шт. Т.: 714-60-41(мтс)[+13]

Трубы металічныя Д=120 б\у, даўжыня 2-2.5м, магчымы для агароджы альбо навесаў. Т.: 596-65-01

Цэглу чырвоную б\у, 400шт. Т.: 3-03-40, 714-46-25(мтс), 612-81-58(мтс)

Міжпакаёвыя дзверы, зашкленыя, 80х200; рогі лася, 2 штукі. Тэл. 8-033-358-80-12

## Куплю будматэрыялы, прылады:

Сетку для агароджы. Т.: 8-033-678-79-98 (мтс)

Ціскі рускія. Т.: 771-11-68(мтс)

## Прадам тэлефоны:

Nokia-6700 C, выдатны стан, 150у.а. Т.: 816-09-00(мтс)[+]

Nokia-206. Т.: 8-029-546-88-28

Nokia-5800, сенсорны экран, выдатны стан, GPS-навігацыя Navitel, інтэрнэт, Wi-Fi, устаноўлена многа карысных праграм, камера 3,2 Мріх, 90у.а. Т.: 329-55-18(мтс)

Nokia-7390, новы, поўны камплект, вытв. Германія. Т.: 719-47-62(мтс)

Samsung-Galaxy S4, памер 136.6х69.8х7.9мм, 130г, смартфон Андроід4.2, працэсар 8-ядзерны, памяць 16Гб, 3G, камера 13Мп, Wi-Fi, GPS, чорны хамелеон, арыгінальны, у падарунак фірменны чахол і дадатковая батарэя, нядорага. Т.: 8-029-120-82-52(в)

Samsung N 900 Galaxy Note 3, памер 151.1х80.5х9.4мм, 180г, смартфон Андроід 4.1, працэсар 4-ядзерны, памяць 16Гб, камера 8Мп, Wi-Fi, GPS, чорны, новы, нядорага. Т.: 8-029-714-00-74(мтс)

Samsung-Галаксі-9300, б\у, добры стан, 900тыс.руб. Т.: 8-029-717-69-38***

Samsung, б\у 8 мес., выдатны стан, 700тыс. руб. Т.: 8-029-717-69-38***

Samsung S 68-02, 2 сім-карты, навігатар. Т.: 719-12-38(мтс)

Смартфон Андроід, экран 5*, інтэрнэт, 1 мес. б\у. Т.: 514-68-60(мтс)

## Бытавая тэхніка і газавае абсталяване на продаж:

Халадзільнікі «Індэзіт»» пад дрэва, высокія, ад 4,9 млн. руб. Пліты газавыя, электрычныя «MASTERCOOK», вытв. Германія, новыя, 2,9млн. руб. Магазін «Бегемот», 2-і паверх, магчыма дастаўка, растэрміноўка аплаты. УНН391054843 выд. 22.03.2010г. Глыбоцкім РВК. Т.:8-029-120-82-52(в)

Пральную машыну «Індэзіт», на 6кг, 14 праграм, крыху б\у, 155у.а. Халадзільнік «Атлант», белы, высокі, з 3-мя маразільнымі камерамі ўнізе, крыху б\у, 2,050 млн. руб. Т.: 8-029-286-65-32 (мтс)

Тэлевізар «Самсунг», дыяг. 62, крыху б\у, 125у.а. Тэлевізар «Самсунг», крыху б\у, 55у.а. Спутнікавую прыстаўку «Самсунг», крыху б\у, 25у.а. Т.: 8-029-892-87-21(мтс)

Халадзільнік МХМ-162 б\у.Т.: 8-029-517-92-78

Халадзільнік «Атлант», амаль новы, нядорага. Т.: 596-25-60

Пліту газавую 50х50. Т.: 2-62-66, 8-033-601-15-22

Машыну пральную паўаўтамат б\у , Расія, 6кг, 600х430х770. Т.: 518-26-83(мтс)

Пліту газавую 4-канфарную «Брэст» б\у. Газавыя балоны 2шт. Скрыню металічную для балона. Т.: 3-03-40, 714-46-25(мтс), 612-81-58(мтс)

Тэлевізар «Гарызонт», 6год, 1млн. руб. Т.: 2-94-24

Тэлевізар «Гарызонт» у добрым стане. Т.: 715-04-56(мтс)*

Маразільнік «Атлант М-7184-090» 6-камерны, крыху б\у, 2,5млн. руб., торг. Т.: 8-029-712-99-10(мтс), 510-34-31(мтс)

Пральную машыну «Індэзіт» на запчасткі. Т.: 8-029-818-22-04 (Анатоль)

## Прадам еміну:

**Бульбу свежую з дастаўкай: вялікую, насенную і дробную. Т:514-21-76**(мтс)[+2]

Ялавічыну (выразку), паўтушы быка, нядорага. Т.: 8-029-286-65-32(мтс)

Мёд, асабістая пасека, нядорага. Т.: 8-029-892-87-21(мтс)

Мёд, асабістая пасека, у Шаркоўшчыне, нядорага. Т.: 8-029-599-11-07(мтс)

Бульбу вялікую з дастаўкай, 120 тыс. руб\мяшок. Т.: 3-28-19

Сала свежае.Т.:293-44-13(мтс)

Тушу свінні. Т.: 594-07-69(мтс)**

Бараніну. Т.: 296-60-60(мтс)****

Тушу кабана. Т.: 219-73-02(мтс)

Бульбу на корм. Т.: 4-10-86

Тушу кабана, 35.000 руб. за кілаграм. Тэл. 8-033-675-29-25

Тушу ці паўтушы кабана. Тэл. 8-033-336-76-02

Тушу кабана 90-100 кг. Тэл. 8-029-713-71-81

Кармавыя буракі. Тэл. 8-033-347-35-58

Тушу кабана. Т.: 8-033-611-78-16

Тушу свінні. Т.: 8-029-358-19-31

## Прадам жывёлу, пчол, рыбак:

Шчанят ад нямецкай аўчаркі. Т:8-033-686-50-39(мтс)[+5]

Козачку лабатую белую, 2 месяцы. Т.: 2-24-39, 309-40-62(мтс)

Казу дойную з казлянятамі. Тэл. 8-033 309-60-51

Індычак дарослых. Тэл. 8-044-763-80-25

Індычат падрошчаных, куранят ад курэй-нясушак (5 відаў). Тэл. 8-029 980-52-15

Траваядных парасят (5 месяцаў), не в'етнамскіх, вялікіх. Тэл. 8-029-516-72-02

Пчол. Т.: 2-87-96

## Куплю жывёлу, пчол, рыбу:

Карову, быка, каня, цялушку, цяля. Т.:8029-597-59-08(мтс)[+1]

Дорага быка, карову, цяля. Т.: 8-029-899-25-42[+8]

Карову, быка, цяля, каня. Т.: 257-18-59[+2]

Быка, цяля, карову, вымушаны забой. Т.: 841-07-75[+2]

БРС і вымушаны забой, дорага. Т.: 8-029-706-90-76(мтс)[+3]

Дохлю на корм сабаку. Т.: 8-029-892-87-21(мтс)

Карову, быка, каня і вымушаны забой. Т.: 874-96-06(мтс)**

Карову, быка, каня і вымушаны забой. Т.: 896-85-86(мтс)**

Каня, цяля, карову, быка. Дорага. Т.: 644-15-07(мтс)

Для гадоўлі маленькага бычка белагаловага. Дорага. Т.: 810-37-38

Карову, быка, цяля, каня, дохлю. Т.: 345-00-15***

Дорага скаціну, а таксама вымушаны забой. Т.: 512-40-95(мтс)***

Куплю дохлю БРС. Тэл. 8-029-577-94-52

## Аддам:

Аддам у добрыя рукі сабаку «Далмацінец», кабель 10 месяцаў. Т.: +37533-611-25-51(мтс)

Аддам у добрыя рукі шчанят (дзяўчынкі) ад дварняжкі, вырастуць невялікімі і пухнатымі. Т.: 8-029-234-28-55

Аддам у добрыя рукі шчаня (пакаевай пароды). Тэл. 8-029-597-02-93

Дарую сабаку басэт-хаунд з радаслоўнай, паляўнічую, 3 гады, у добрыя рукі. Тэл. 8-029 715-52-33

## Паслугі:

Паслугі храка-вытворцы траваяднай пароды. Т.: 814-79-01(мтс), 2-71-02

## Прадам тавары для дзяцей:

Каляску дзіцячую новую, нядорага. Т.: 770-60-43(мтс)

Каляску Джып для дзяўчынкі, у добрым стане.Т:8029-597-82-10 (мтс), 5-01-86

Ложак дзіцячы (масіў) з матрацам, каруселькай і пасцельнай бялізнай, 1,5млн. руб. Т.: 215-10-58

Каляску Джып-трансформер, універсальная, бежавая, добры стан, б\у 6 мес., 600 тыс. руб. Т.: 8-029-545-44-15(мтс), 2-64-52

Дзіцячы манеж б\у. Дзіцячае крэсла для кармлення б\у, выдатны стан. Т.: +37529-561-40-60(мтс)*

Каляску Джып л\з варыянт, поўны камплект, універсальнай афарбоўкі, у добрым стане. Т.: 8-029-293-39-54**

## Прадам паліва:

**Прычэп дроў з дастаўкай. Т.: 514-21-76(мтс)**[+5]

Дровы (абрэзкі), нядорага. Т.: 8-029-892-87-21(мтс)

Дровы, нядорага, з дастаўкай. Т.: 8-029-286-65-32(мтс)

Дровы чуркамі. Т.: 567-62-95(мтс)

Дровы. Т.: 345-37-03(мтс)

Дровы з дастаўкай. Тэл. 8-029 891-23-08 мтс

## Прадам сельгасінвентар:

Сані конныя. Т.: 3-18-54 (в. Латыгаль)

Касілку конную на жалезным ходзе. Т.: 3-29-40**

Плуг 1-корпусны да трактара Т-25 ПН-1-35. Т.: 810-09-83(мтс)

Бульбакапалку б\у, бульбасаджалку б\у, культыватар б\у, акучнік б\у. Т.: 512-13-00(мтс)***

Жалезную раму для калёс. Карыта для паення скаціны на палазах. Т.: 8-033-678-24-34(мтс)

## Прадам сена:

Сена. Т.: 8-029-564-83-55(мтс)*

Сена. Т.: 2-63-02

## Прадам зерне:

Жыта, пшаніцу, ячмень. Т.: 3-03-40, 714-46-25(мтс), 612-81-58(мтс)

Ячмень 10 мяшкоў. Т.: 4-10-86

## Куплю зерне:

Зерне, мех 70 тыс. руб. Т.: 8-033-308-58-56(мтс)***

## Прадам кветкі:

**Кветкі да свята 8 сакавіка (зрэзка і пакаевыя). Тэл. 8-029-710-52-85, 8-044-471-99-48**

## Прадам тавары для здароўя:

**Бабровая струя** - эфектыўна ўзнаўляе патэнцыю, ачышчае сасуды, выводзіць халестэрын, цукар, шлакі, нармалізуе ціск, узнаўляе абмен рэчываў. **Праполіс**. 500 тыс. руб. УНН391054834 выд. 391054834 выд. 22.03.2010г Глыбоцкім РВК. Т.: 8-029-120-82-52(в)

**Актыватар** для вытворчасці «жывой» і «мёртвай» вады, 870 тыс. руб (вызваляе ад лішняй вагі, атлусцення, узнаўляе абмен рэчываў, нармалізуе ціск). Вытв. РБ. Ліцэнзія. Афіцыйны сертыфікат МінРБ. УНН391054834 выд. 22.03.2010г Глыбоцкім РВК. Т.:8-029-120-82-52(в)

Бабровую струю. Т.: 715-10-87(мтс)*

## Куплю калекцыі:

Старыя манеты, узнагароды і іншае. Т.: 757-37-70[+]

## Іншае:

Аўташкола Глыбоцкай РОС ДАСААФ праводзіць набор навучэнцаў на курсы падрыхтоўкі вадзіцеляў кат. В. Аплата ў 3 этапы. Тэрмін навучання 3 месяцы. Пачатак навучання па меры фарміравання групы. Т.: 2-70-40, 8-029-895-06-19*

## Прадам электратавары:

Шрубакрут DWT, б\у, 370 тыс. руб. Шрубакрут-дрэль «Евротех», новы, пад 220В, 570 тыс. руб. Бензапілу «Шціль-180», арыгінальная, 1 мес. б\у, 210у.а.Прафесійны перфаратар з адбойнікам для дзірак у сценах, 1 мес. б\у, 110у.а.Т:8029-286-65-32(мтс)

Зварачны апарат прафесійны, 3-фазны, на 380В, 550у.а. Зварачны апарат індукцыйны на 220В, 270у.а. Кампрэсар прафесійны на 380В, 230у.а. Насос для перакачкі паліва, вады,25у.а. Т.: 8-029-892-87-21(мтс)

